## ДУХ СВЯТОГА АНТОНІЯ ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАКІДАЕ МАГІЛЁЎ (ПАЧАТАК НА СТР.3)

А потым, нібыта, ён стаў першым месцам, дзе месціўся краязнаўчы музей, што ствараў магілёўскі гісторык Еўдакім Раманаў.

"Наколькі я ведаю, менавіта ў гэтым будынку касцёла святога Антонія зрабілі наш першы краязнаўчы музей", - распавядае Алег Дзячкоў, адзначаючы, што пасля рэвалюцыі гэты будынак аддалі пад майстэрні магілёўскага НКВД.

"Падчас Вялікай Айчыннай вайны гэты касцёл згарэў – у дні абароны Магілёва ў ліпені 1941 года. І пры вызваленні Магілёва ён вельмі моцна пацярпеў. Адна са сцен абвалілася", - кажа краязнаўца. Паводле яго, пад храмам, згодна дакументаў, быў падземны ход, але куды ён вёў, ужо невядома.

Касцёл быў знесены, па розных сведчаннях, у 40-50-ыя гады мінулага стагоддзя. Але да нашага часу цалкам захаваліся падмуркі касцёла і падмуркі кляштара бернардынаў, сцвярджае Алег Дзячкоў, упэўнены, што аднавіць будынак магчыма.




"І хай бы ён функцыянаваў не як касцёл, але ён быў бы архітэктурнай дамінантай гэтага раёна. Калі адновяць Пакроўскую царкву, што за гэтым касцёлам метраў праз 200 у бок Свята-Мікольскага манастыра, і аднавіць сінагогу на Школішчы, падмуркі якой таксама захаваліся, зрабіць там, напрыклад, музей магілёўскага яўрэйства, то быў бы ўнікальны гісторыка-культурны комплекс у межах Магілёва, дзе былі б прадстаўлены зноў усе тры канфесіі, а таксама розныя архітэктурныя мастацкія плыні сярэднявечнай Беларусі. Пакроўская царква будавалася ў стылі Магілёўскай школы дойлідства, касцёл святога Антонія - ў стылі барока, а сінагога 17 стагоддзя была драўляная", - адзначае грамадскі дзеяч.

З ім у многім згодны і Ігар Пушкін, але ён лічыць, што спачатку трэба распрацаваць канцэпцыю аднаўлення старых будынкаў, якой у Магілёве няма, і натуральна распачаць раскопкі на месцы былога храма. "На сёння трэба паставіць пытанне аб вывучэнні гэтага месца", - кажа гісторык.

Па яго меркаванні, варта было б стварыць адмысловы фонд, дзе б акумуляваліся грошы на правядзенне такіх работ, і задзейнічаць на тое сродкі, што выкарыстоўваюцца на добраўпарадкаванне тэрыторыі Падніколля з мэтай стварэння там парка.



"Яны выдаткоўваюць вялізарнейшыя сродкі на парк, так правядзем раскопкі ў гэтым парку, і калі не адбудуем храмы пакуль, дык акультурым гэтыя падмуркі раскопанымі", - адзначае Пушкін.

"Паставіць там касцёл, царкву, сінагогу не за адзін год, а на перспектыву. Гэта быў бы прыклад, як могуць мірна суіснаваць канфесіі", - падкрэслівае гісторык.

Пакуль жа новы касцёл святога Антонія ўжо каля сямі гадоў будуецца ў раёне Святога возера на сродкі прыхаджан. Канца будоўлі пакуль нябачна.

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№82

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 9 кастрычніка 2014 г.

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

ГРАМАДСТВА

■ Уладзімір Лапцэвіч

## АДНОЎЛЕНАЯ ДУБРАВЕНСКАЯ БРАМА МОЖА СТАЦЬ СІМВАЛАМ НЕІСНУЮЧАГА МАГІЛЁЎСКАГА ЗАМКА

**Магілёў у адрозненні ад іншых старажытных гарадоў даўно згубіў адну з іх характэрных рыс – гарадскі замак. Цяпер нават рэштак яго муроў і брам не знойдзеш на паверхні зямлі. Разам з тым аднавіць, як калісьці Ратушу, напрыклад Дубравенскую браму, якая глядзела б на Дубравенку з дваравой тэрыторыі ля плошчы Славы, цалкам магчыма, упэўнены магілёўскі гісторык Ігар Пушкін.**



**Ігар, Магілёўскага замку няма і планаў па яго нейкім аднаўленні таксама не існуе. Якім чынам можна было б неяк пазначыць колішні неад'емны атрыбут старадаўняга горада?**

У нас ёсць так званы гістарычны цэнтр, які сам па сабе з'яўляецца помнікам архітэктуры. Сёння трэба весці размову аб тым, наколькі рацыянальна можна выкарыстоўваць яго для розных мэтаў, у тым ліку для раскручвання гісторыка-культурнай спадчыны Магілёва. У гэтым кантэксце з'яўляецца варыянт выкарыстання дваравых тэрыторый, асабліва паблізу цяперашняй плошчы Славы недалёка ад абласнога краязнаўчага музея.

На сённяшні дзень мы нічога не маем, што нагадвала б нам пра існаванне Магілёўскага замка. Захаваліся толькі некаторыя рэшты земляных абарончых збудаванняў. Самая старажытная частка Магілёва - гэта Нагорскі пасад, які быў абмежаваны з аднаго боку рэчкай Дубравенкай, з другога Дняпром, а з трэцяга боку, дзе сёння драмтэатр, праходзіў калісьці глыбокі роў.

У старажытны Магілёў можна было ўехаць праз 4 мураваныя брамы - праз Алейную браму, Ветраную, Каралеўскую і Дубравенскую. Апошняя брама была двухпавярховая, мураваная. Яна абараняла ўезд у горад праз рэчку Дубравенка.

**Працяг на стр.2**

■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ ЗАКАЗЧЫКІ ЗРЫВАЮЦЬ РЭКАНСТРУКЦЫЮ ДАМОЎ, ЯКІЯ АХОЎВАЮЦЦА ДЗЯРЖАВАЙ

**Пра гэта ў сваім лісце паведаміў намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Андрэй Кунцэвіч.**

Са словаў чыноўніка ў снежні 2013 года быў зацверджаны пералік жылых дамоў, якія падлягалі рэканструкцыі ў 2014 годзе. У спіс дамоў былі ўключаны будынкі па вул. Першамайскай 15,19; зав. Пажарнаму, 10; зав. Камісарыяцкаму, 17; вул. Піянерскай, 33, якія маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Аднак, дагэтуль ніводны з патэнцыйных заказчыкаў (забудоўшчыкаў) не накіраваў у Магілёўскі гарвыканкам свае прапановы па рэканструкцыі дадзеных дамоў.

За ўвесь 2014 год адбыўся толькі бягучы рамонт фасаду дамоў №15 і 17 па вул. Першамайскай на суму 20 850 000 рублёў. У 4-м квартале 2014 года плануецца выканаць капітальны рамонт фасаду д.33 па вул. Піянерскай.

Такім чынам можна канстатаваць, што праграма па рэканструкцыі гісторыка-культурных каштоўнасцяў на 2014 год у Магілёве аказалась праваленай.

Нагадаем, што ў верасні больш за 20 магілёўцаў накіравалі калектыўны зварот у Магілёўскі гарвыканкам з просьбай распавесці як адбываецца рэканструкцыя гісторыка-культурнай спадчыны Магілёва ў адпаведнасці з раней зацверджаным планам. Ініцыятарам звароту выступіла незалежнае выданне "Наш Магілёў".

# АДНОЎЛЕНАЯ ДУБРАВЕНСКАЯ БРАМА МОЖА СТАЦЬ СІМВАЛАМ НЕІСНУЮЧАГА МАГІЛЁЎСКАГА ЗАМКА (ПАЧАТАК НА СТР.1)




Да нашых дзён у Магілёве захаваўся Брамны завулак. Ён нават так і па-руску гучыць – Брамный. Ён перажыў XVII стагоддзе, XVIII, XIX, XX і існуе ў пачатку XXI стагоддзя.

У двары дома па вуліцы Першамайскай 2, дзе пачынаецца Брамны завулак, сёння ёсць вольнае месца, якое можна выкарыстаць для аднаўлення часткі абарончых збудаванняў бліжняга валу. Там было калісьці 17 рэдутаў, на якіх былі ўсталяваныя гарматы. Іх можна аднавіць. І на гэтым жа месцы можна пабудаваць нейкія аб'екты, напрыклад, грамадскага харчавання і іншага прызначэння. Але іх вонкавы выгляд каб нагадваў Дубравенскую браму, каб яна, адноўленая, стаяла ў пачатку Брамнага завулка на гары.

**А ці ёсць магчымасць яе аднавіць? Ці існуюць нейкія апісанні?**

Ёсць пэўныя апісанні - інвентары. Найбольш поўна Дубравенская брама адлюстравана на карцінах славутага магілёўскага мастака Базыля Камарова. Упэўнены, што яе цалкам магчыма аднавіць.

Мы павінны падумаць пра інвестыцыі. Таму неабходна і абавязкова аб'явіць конкурс, паставіўшы пытанне перад інвестарамі – хто згодны ўзяць гэта месца ў цэнтры Магілёва? Але пры умове, што інвестыцыйныя прапановы прадугледжвалі б рэканструкцыю гэтых абарончых збудаванняў Магілёва, якія тут існавалі.

Месца ж вельмі прывабнае – недалёка плошча Славы, недалёка аб'екты, якія размяшчаюцца на вуліцы Першамайскай. Адкрываецца цудоўная панарама з вышыні на Задубровенскую частку Магілёва, добраўпарадкаваную раку Дубравенку.

Таму з пункту гледжання інвестара, месца вельмі зручнае. А для магілёўцаў гэта будзе шанец ушанавання сваёй гісторыка-культурнай спадчыны - абарончых збудаванняў, адной з чатырох брам, якая ў гэтым месцы існавала. Магчыма, гэта будзе муляж. Але гэта будзе знакавае месца, да якога будуць хадзіць людзі, якія прыязджаюць у горад Магілёў, альбо самі магілёўцы.

**Ці захаваліся ў тым месцы нейкія падмуркі ці нешта такое, што сведчыла б аб тым, што гэтая Дубравенская брама стаяла ў тым месцы, дзе яе варта паставіць?**

Нам не вядомы чарцяжы і дакладныя абмеры брамы. Таму патрэбна правядзенне археалагічных раскопак і папярэдніх навуковых даследаванняў.

Самае галоўнае паставіць перад сабой мэту. Я ўпэўнены, што ў хуткім часе гэтае месца будзе выкарыстана. А вось для чаго – гэта вельмі важна для нас - найлепш каб адначасова было карысна і для інвестара, і для горада.

**Наколькі мэтазгодна было б аднаўляць Дубравенскую браму з тых матэрыялаў, з якіх была пабудаваная аўтэнтычная брама?**

Ёсць розныя метадыкі, розныя падыходы. Дзесьці выкарыстоўваюць аўтэнтычны матэрыял, дзесьці наладжана вытворчасць будаўнічых матэрылаў, згодна тых тэхналогій, якія існавалі напрыклад у 16-17 стагоддзях. Ёсць, канешне, магчымасць пабудаваць з сучасных матэрыялаў.

Для тых будынкаў, якія захаваліся трэба праводзіць рэстаўрацыю ў адпаведнасці з агульна прынятымі нормамі і правіламі. З выкарыстаннем тагачаснай тэхналогіі, будаўнічых матэрыялаў. Але калі будынак цалкам знішчаны і ідзе своеасаблівая рэканструкцыя, то чаму тут нейкім чынам не выкарыстаць сучасныя тэхналогіі і матэрыялы.

Для нас будзе карысным што? Пераўтварэнне міфаў у рэальнасць. Бо на сённяшні дзень мы праводзім экскурсію і гаворым – на гэтым месцы стаяла тое, паказваем малюнкі і таму падобнае. Але гэтага недастаткова. Зусім іншая справа, калі для новага пакалення, тых дзетак, якім 3-5-10 гадоў, якія народзяцца, гэты аб'ект стане рэальнасцю. Так як стала Ратуша. Я думаю, што сучасная моладзь, новае пакаленне не задаюцца пытаннем, з якіх будаўнічых матэрыялаў зроблена Ратуша. Для іх яна ёсць сімвалам горада, сімвалам самакіравання, еўрапейскасці.



Уладзімір Лапцэвіч

# ДУХ СВЯТОГА АНТОНІЯ ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАКІДАЕ МАГІЛЁЎ

**Яшчэ сто гадоў таму святы Антоній быў хіба не самым шанаваным сярод усіх святых ў Магілёве. Натуральна, што такая пашана не магла не ўвасобіцца ў штосьці матэрыяльнае, а менавіта ў касцёл ў яго гонар, што стаяў калісьці ў цяперашнім раёне Падніколле, а тады так званым яўрэйскім Школішчы на беразе Дняпра. Нягледзячы на шматгадовае будаванне новага касцёла святога Антонія ў Задняпроўі, стары храм, на думку краязнаўцаў, яшчэ можна аднавіць.**



Упершыню касцёл святога Антонія быў пабудаваны ў Магілеве ў 1687 годзе ў драўляным выглядзе. Прыкладна праз сорак гадоў яго зрабілі мураваным, і таму менавіта з'яўленне мураванага каталіцкага храма ў 1720-я гады і кляштара ордэна бернардынаў і лічыцца датай пабудовы ў стылі барока касцёла святога Антонія ў Магілёве.

"Святы Антоній лічыўся апекуном каталікоў горада Магілёва. Галоўны фасад храма выходзіў на верхні горад на Гандлёвую ці Губернатарскую плошчу (цяпер – плошча Славы). Ён стаяў на беразе Дняпра, на Школішчы за сінагогай", - распавядае "Нашаму Магілёву" магілёўскі краязнаўца, старшыня гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы Алег Дзячкоў.

Той раён сапраўды быў унікальным у Магілёве. "Там жылі напрацягу некалькіх стагоддзяў людзі розных канфесій – Школішча - іудзеі, касцёл св.Антонія – каталікі, Пакроўскі пасад, дзе была Пакроўская царква, - праваслаўныя. І архітэктурнай дамінантай гэтага раёна быў касцёл, бо вежы былі высокія, трох'ярусныя", - кажа Дзячкоў.

Паводле яго, пасля падаўлення паўстання Кастуся Каліноўскага касцёл зачынілі, потым знеслі дзве трох'ярусныя вежы на фасадзе.

Але і пасля паўстання, дзень святога Антонія быў больш чым проста рэлігійнае свята для магілёўцаў, прычым не толькі каталікоў, але і праваслаўных. "Адзіны дзень у годзе, калі перапаўняецца людзьмі кафедральны касцёл (святога Станіслава, бо туды пасля зачынення касцёла святога Антонія быў перанесены яго абраз – заўв. "Нашага Магілёва"), і тлумы людзей прыходзяць на могілкі, ёсць дзень святога Антонія", - пішацца ў томе першым "Ілюстраванага апісання ўсіх касцёлаў і парафій, што знаходзяцца на абшарах старажытнай Польшчы і прылеглых землях", складзенага з сшыткаў "Нашы касцёлы", што выходзілі ад 1912 года ў Пецярбурзе і Варшаве.



"Люд тады сцягваецца з усіх бакоў, некалькі кампаній прыходзяць з іншых парафій, і каталіцкія святары знаходзяцца ў аблозе, а рэлігійныя песнапенні гучаць цэлы дзень. Толькі гонар святога Антонія абуджае спячых беларусаў, і нават праваслаўныя тады спяшаюцца да касцёла са сваімі ахвяраваннямі. І здаецца нам тады, што гэта іншы Магілёў - веруючы, прывязаны да касцёла, такі як быў калісьці, калі вера каталіцкая моцнай была", - распавядаецца ў кнізе стагодовай даўніны.

Паводле "Нашых касцёлаў", 21 лістапада 1865 года па загадзе губернатара касцёл святога Антонія быў зачынены і перароблены ў архіў суда.

Як сцвярджае кандыдат гістарычных навук, першы дырэктар Музея гісторыі Магілёва Ігар Пушкін, будынак храма быў аддадзены царкве, але царквою не стаў, і спачатку выкарыстоўваўся як хранілішча.

Працяг на стр.4